ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№23
(2529)

5 чэрвеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.



22—23 мая адбыўся візіт у Маскву дзяржаўнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на чале з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам ЛУКАШЭНКАМ. Быў падпісаны Статут Саюза Беларусі і Расіі.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## «МЫ ЎВОЙДЗЕМ У ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ МОЦНЫМ І ПРАЦВІТАЮЧЫМ МІЖДЗЯРЖАЎНЫМ АБ'ЯДНАННЕМ»

"Гэта поўная і абсалютна безагаворачная перамога тых людзей, якія доўгі час марылі аб адзінстве нашых народаў", — так заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў аэрапорце "Унукава-2" перад вылетам на Радзіму ў дзень падпісання Статута Саюза Беларусі і Расіі.

Яшчэ да таго, як прэзідэнты дзвюх краін узгаднілі свае пазіцыі па шэрагу артыкулаў Статута, і Аляксандр Лукашэнка, і Барыс Ельцын папярэджвалі журналістаў, што ніякіх сенсацый не чакаецца. І сапраўды, 23 мая кіраўнікі дзяржаў па сутнасці толькі завяршылі адзін з этапаў напружанай работы па ўмацаванню дружбы і ўсебаковага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Расіяй у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, ваеннай, навуковай, культурнай і іншых галінах.

І ўсё ж, нягледзячы на адсутнасць сенсацый, прыемных нечаканасцей у ходзе падпісання Статута было нямала. Адна з іх — дакладная і ўзгодненая пазіцыя прэзідэнтаў дзвюх краін у адносінах да шэрагу прынцыповых палажэнняў Статута. Не сакрэт жа, што падкідванне некаторымі расійскімі палітыкамі ідэі аб стварэнні адзінай федэратыўнай дзяржавы было накіравана перш за ўсё на тое, каб сарваць падпісанне дакумента і "забіць клін" паміж расійскім і беларускім кіраўніцтвам. Аднак, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, у гэтай няпростай сітуацыі перамог разумны сэнс тых, хто з'яўляецца сапраўдным прыхільнікам зближэння. Ну а тыя, хто процістаяў гэтаму працэсу, засталіся, як кажуць, пры сваіх інтарэсах.

Ва Уладзімірскай зале Вялікага Крамлёўскага палаца, дзе адбылася ўрачыстая цырымонія падпісання Статута, знаходзіліся практычна ўсе кіраўнікі дзвюх краін.

Барыс Ельцын падкрэсліў, што расійскі і беларускі народы хочуць жыць разам, таму абавязак дзяржаўных дзеячаў — знайсці найлепшы шлях да гэтай мэты. "І што б ні казалі нашы нядобразычлівцы, а Супольніцтва Расіі і Беларусі стала рэальнасцю сучаснага свету. Яно развіваецца, удасканальваецца. Спадзяюся, што ў перспектыве народы Расіі і Беларусі будуць жыць пад агульным дахам. А якім ён будзе — падкажа жыццё", — сказаў Барыс Ельцын. Ён адзначыў, што 80 працэнтаў расіян выказаліся за Саюз, і, выказваючы волю сваіх народаў, расійскі і беларускі Прэзідэнты пацвярджаюць: "Саюзу — быць!" Паводле слоў Барыса Ельцына, цяпер самае галоўнае — арганізаваць велізарную работу па дасягненню мэтаў і задач Саюза. Ён выказаў упэўненасць, што Саюз стане прыцягальным прыкладам для іншых краін і народаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. "Веру, што Саюз Беларусі і Расіі чакае вялікая будучыня!" — заявіў у заключэнне Барыс Ельцын.

"Сёння мы робім яшчэ адзін буйны крок на шляху яднання беларускага і расійскага народаў", — сказаў, ацэньваючы падпісанне Статута, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Ён падкрэсліў, што народы нашых краін яшчэ раз прадэманстравалі разумны сэнс, разважлівасць, добрае разуменне мэтаў міждзяржаўнага аб'яднання. У ходзе свабоднай, адкрытай дыскусіі аб асновах і перспектывах Саюза людзі змаглі самі пераканацца, хто сапраўды хоча яднання, а хто спрабуе выкарыстаць тэму інтэграцыі ў сваіх мэтах. "Не ўсіх задавальняла тое, што Саюз грунтуецца на прынцыпе суверэннай роўнасці яго ўдзельнікаў. Незразумела, чаму гэта ідэя выклікае ў некаторых расійскіх палітыкаў такое непрыманне. Няўжо яны паспелі забыць, што больш як семдзесят гадоў БССР і РСФСР былі раўнапраўнымі саюзнымі рэспублікамі?!" — адзначыў Аляксандр Лукашэнка. Паводле яго слоў, праціўнікі беларуска-расійскага Саюза ў ходзе абмеркавання праекта Статута не змаглі прывесці ніводнага сур'ёзнага аргумента супраць яго прыняцця.

Адказваючы на гэтыя пытанні, кіраўнік беларускай дзяржавы падкрэсліў, што Саюз — гэта свабоднае, добраахвотнае і раўнапраўнае аб'яднанне беларускага і расійскага народаў, дзе ўсім грамадзянам будуць гарантаваны роўныя правы. Пры гэтым ён падкрэсліў: "Мы не спрабуем вярнуць мінулае, як сцвярджаюць нашы апаненты. Наадварот, мы імкнёмся разняволіць тыя сацыяльныя сілы, якія могуць стаць рухавіком дэмакратычных пераўтварэнняў у нашых краінах". Па глыбокаму перакананню Прэзідэнта, міждзяржаўнае аб'яднанне дасць магчымасць стварыць грамадства, у якім улада служыць народу, моладзь мае шанц для развіцця, а старасць у пашане і забяспечаная.

"Упэўнены, што мы абавязкова пераадолеем сённяшнія цяжкасці і ўвойдзем у трэцяе тысячагоддзе моцным і працвітаючым міждзяржаўным аб'яднаннем, з якім будуць лічыцца не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце", — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

**Ларыса ЛАЗАР. БЕЛТА.**

## *АКТРЫСА Святлана АКРУЖНАЯ*

## ГОДНАСЦЬ СМУТНАЙ РАДАСЦІ І СВЕТЛАГА БОЛЮ

Якой маленькай, я сказаў бы нават, — мініяцюрнай здавалася яна мне ў вялізнай зале скульптурнай майстэрні. Нібы прыцішаны матыль, у сціпла стракатай батыставай кофтачцы, яна ці не на дыбачках пераходзіла ад адной статуі да другой, ад партрэта да партрэта. Над ёю ўзносіліся ажно пад высачэзную столь манументальныя фігуры, злепленыя і адфармаваныя маэстра Азгурам. Палкаводцы і мысліцелі, паэты і навукоўцы, партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, вясковыя працаўніцы і оперныя спевакі, падобныя да рыцараў ваенныя коннікі... Карлу Марксу з агромністай чупрынай яна ледзь дастала б рукой да калена.

Гаспадар майстэрні спрабаваў разагнаць напружанне госці і загаварыў пра пэўнае падабенства мастацтва скульптуры і мастацтва артыстычнага. Маўляў, мы ствараем аблічча асобы з гліны, з каменя, з бронзы, а вы, акцёры... Як нехта з вялікіх казаў, артыст робіць вобраз быццам з таго "матэрыялу", з якога ствараюцца нашыя сны. З мары. З фантазіі.

— Гэта ўсё адно што са снегу, — усміхнуўся Заір Азгур. — Заслона закрываецца, вы разгрыміраваліся, і сцэнічны вобраз растае... ператвараецца ў цень... знікае...

Святлане Акружной падабалася, што сусветнай славы мастак прызнае сваё рамяство ў нечым блізкім да акцёрскага і не без спачування засведчыў мімалётны характар творчасці чалавека на сцэне. Неяк прасветлена ўсміхнулася. Штосьці адказала. Зноў засмуцілася каля партрэта Бацькі Міная. Ягоны твар неверагодным намаганнем волі прыхаваў бацькоўскую пакуту ад свайго фаталь-

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Вясна. Цвітуць сады.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*ДЫЯСПАРА*

### БЕЛАРУСКАЯ ЦАГЛІНА ЭСТОНСКАГА ДОМА НАЦЫЙ

**Дом нацый, дзе змогуць збірацца члены культурных таварыстваў нацыянальных меншасцей Эстоніі, адкрыты ў Таліне па ініцыятыве асацыяцыі нацыянальна-культурных таварыстваў "Ліра".**

Асацыяцыя аб'ядноўвае 18 нацыянальна-культурных таварыстваў краіны. Найбольш буйныя дыяспары прадстаўнікоў фінаўгорскіх народаў, рускіх, украінцаў, беларусаў, татараў і казахаў. Усяго ў Эстоніі пражываюць прадстаўнікі 101 нацыянальнасці. У Доме нацый яны змогуць карыстацца памяшканнямі для правядзення сходаў, рэпетыцый, курсаў эстонскай мовы і іншых мерапрыемстваў. Да гэтага часу многія культурныя таварыствы былі пазбаўлены такой магчымасці. Пяціпакаёвы дом з камінный залай узведзены агульнымі сіламі нацыянальна-культурных таварыстваў Эстоніі. У будаўніцтве прымалі ўдзел украінцы, беларусы, карэйцы, казахі, татары, узбекі і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. Грошы на будаўніцтва знайшлі самі таварыствы, частку фінансаў выдзелілі ўлады горада Таліна і Міністэрства культуры Эстоніі.

*ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ*

### ЗА ГАЗ — ДАМАМІ

**Беларусь мае намер пагашаць запазычанасць за расійскі газ аказаннем будаўнічых паслуг. Аб гэтым паведаміла Інтэрфаксу высокапастаўленая крыніца ў Савеце Міністраў Беларусі.**

Паводле яе слоў, цяпер у Калінінградскай вобласці працуюць каля 600 беларускіх будаўнікоў, якія аснашчаны неабходнай тэхнікай, уключаючы краны.

За два мінулыя гады беларусы здалі ў эксплуатацыю ў гэтым рэгіёне чатыры жылыя дамы агульнай плошчай больш як 12 тысяч квадратных метраў. Працягваецца будаўніцтва яшчэ аднаго жылога дома плошчай 6 тысяч 900 квадратных метраў і санітарна-аздараўленчага комплексу на ўзбярэжжы Балтыйскага мора.

У цэлым аб'ём асвоеных беларускімі будаўнікамі сродкаў на пачатак года склаў звыш 11,2 мільёна долараў. На гэтую суму РАТ "Газпром" пагашана запазычанасць рэспублікі за пастаўлены газ.

*РЫНАК ПРАЦЫ*




На кірмаш вакансій запрасіў вучнёўскую моладзь і студэнтаў Першамайскага раёна сталіцы Мінскі гарадскі цэнтр занятасці вучнёўскай моладзі. Маладыя людзі азнаёміліся тут з сітуацыяй на рынку працы, атрымалі юрыдычныя кансультацыі па пытаннях занятасці, інфармацыю аб прафесіях.

НА ЗДЫМКУ: у час работы кірмашу вакансій.

*ЦЯГНУЦЬ УСЁ*

### АПЕРАЦЫЯ «АГРАРНІК»

**Два месяцы працягваецца ў Віцебскай вобласці аперацыя "Аграрнік", якую праводзіць МУС для папярэджання і спынення злачынстваў на сельскагаспадарчых аб'ектах.**

Органы міліцыі на месцах з дапамогай мабільных груп выявілі за гэты час каля 200 крымінальных злачынстваў: крадзяжоў насеннага збожжа, бульбы, мінеральных угнаенняў, гаручага, запчастак. Крадуць у асноўным самі калгаснікі і рабочыя саўгасаў, а часам і спецыялісты. Нехта для сябе, нехта на продаж, іншы раз не папярэджваючы, напрыклад, пакупніка, што пратраўленае збожжа нельга прымяняць у ежу, небяспечна даваць жывёле. Ёсць выпадкі атручвання.

Цяпер, у перыяд пасяўной, ажывіліся гарадскія злодзеі, дачнікі. Некаторыя ўхітраюцца выкопваць з зямлі толькі што пасаджаную бульбу, іншую гародніну, залазяць у пладова-ягадныя гадавальнікі па элітныя саджанцы. Таму ў многіх калгасах і саўгасах створаны дружыны, а за злоўленага злодзея назначаецца прэмія.

*ПАСЛАННЕ АД «КОКА-КОЛЫ»*

### ЗАМЕЖНЫ КАПІТАЛ

**На імя кіраўніка беларускай дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі прыйшло пісьмо ад прэзідэнта кампаніі "Кока-Кола Амаціл Еўропа" Мухтара Кента.**

У сваім пасланні спадар Мухтар Кент выказаў упэўненасць, што запланаванае кампаніяй укладанне капіталу будзе ажыццяўляцца згодна з графікам, будзе таксама рэалізавана імкненне кампаніі стаць пастаўшчыком ... — папраўка: стаць поўнасцю мясцовым вытворцам. "Кока-Кола" зробіць усё, што ў яе сілах, для садзейнічання развіццю эканомікі Беларусі як прама, так і пры дапамозе "множнага эфекту занятасці", — гаворыцца ў пісьме.

*МАЛАРЫЦКІ ХМЕЛЬ*



Чацвёрты год у Маларыцкім раёне працуе сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства "Бізон", якое займаецца вырошчваннем хмелю для півавараных заводаў. Ужо цяпер плантацыя каштоўнай культуры займае 20 гектараў, 9 з іх даюць ураджай. А да 2000 года плантацыя побач з вёскай Замшаны расшырыцца да 50 гектараў. Сёлета прадпрыемства зможа выпусціць 13—15 тон сухой грануляванай сыравіны, якую з задавальненнем купляюць півоварныя заводы Беларусі.

Заснавальнікамі перспектыўнага прадпрыемства з'яўляюцца калгас "Маларыцкі" і саладавы завод горада Ландсберга з Германіі.

НА ЗДЫМКУ: Вера РУДЫК — галоўны аграном на хмеляводчай плантацыі.

*МЕРКАВАННЕ АПАЗІЦЫІ*

### БНФ НЕ ПРЫЗНАЕ

**Кіраўніцтва Беларускага народнага фронту прыняло заяву з нагоды падпісання Статута Саюза Беларусі і Расіі, у якой зазначаецца, што "БНФ не прызнае і ніколі не прызнае ніякіх "саюзаў" і дамоваў Беларусі з Расіяй, заключаных Ельцыным і Лукашэнкам. Гэтыя дамовы супярэчаць Канстытуцыі Беларусі... БНФ супраць усякай інтэграцыі з прасякнутай імперскімі амбіцыямі, нестабільнай Расіяй, не прызнае дыктатарскі рэжым у Беларусі". Заяву гэту па даручэнню кіраўніцтва БНФ падпісаў З. Пазняк.**

"Наша Канстытуцыя ўстанаўлівае, што Беларусь — суверэнная, унітарная, дэмакратычная і прававая дзяржава, усё, што супярэчыць гэтаму, не мае прававой сілы", — падкрэсліў выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі, каменціруючы гэту заяву.

"Любая дамова з Масквой палягае далейшыя працэсы палітычнай, эканамічнай, вайсковай інкарпарацыі Беларусі ў Расію, — заявіў В. Вячорка, — нават калі на гэты раз вядуцца размовы пра тое, што захоўваецца незалежнасць абедзвюх дзяржаў. Па дамаганню расіян у гэтым дагаворы з'явіўся шэраг эканамічных артыкулаў, якія гарантуюць пэўныя перавагі для расійскага капіталу. Гэты Статут, інакш кажучы, расчышчае дарогу для чубайсаўска-нямцоўскай канцэпцыі інтэграцыі і неакаланіяльнага сцэнарыя ў адносінах да Беларусі, для эканамічнага кантролю Расіі над нашай краінай".

Юрый Хадыка таксама не пагадзіўся з параўнаннем новага Саюза Беларусі і Расіі з Еўрасаюзам: "Гэта не 16 краін Еўрасаюза і нават не пяць краін — яго заснавальнікаў. Гэта Саюз, які ў эканамічным плане можа прывесці толькі да знішчэння эканамічнай незалежнасці Беларусі".

*МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ*

### КУПЛЯЮЦЬ БОЛЬШ

**Як паведаміла прэс-служба Міністэрства гандлю, на працягу бягучага года адзначаны стаўючы рост рознічнага тавараабароту.**

Яго аб'ём вырас на 26,2 працэнта і дасягнуў 30,5 трыльёна рублёў. Лепшыя вынікі дасягнуты ў Гродзенскай і Гомельскай абласцях.

Павялічваецца доля прадпрыемстваў з недзяржаўнай формай уласнасці. Разам з спажыўкааперацыяй яны складаюць 58,8 працэнта.

За чатыры месяцы гандлёвыя прадпрыемствы паставілі на экспарт тавараў на 44,35 мільярда рублёў, у асноўным непрадуктовых. Некаторыя, напрыклад, мінскі халадакамбінат № 1, ужо перавыканалі план па экспарту.

*АПОШНІ ЗВАНОК*



У школах Беларусі скончыліся заняткі, празвінеў апошні званок. Канец навучальнага года і пачатак летніх канікулаў крычаўская дзятва весела адзначыла ў гарадскім дзіцячым парку.

НА ЗДЫМКУ: школьнікі накіроўваюцца ў парк.

*ПАМЯЦЬ*

### ПЕРШАМУ ГЕРОЮ БЕЛАРУСІ

**У вёсцы Арабаўшчына Баранавіцкага раёна, дзе роўна год назад па-геройску загінуў ваенны лётчык Уладзімір Карват, адбылася ўрачыстая цырымонія. У гонар Героя Беларусі, які цаною жыцця выратаваў гэты населены пункт ад катастрофы, на месцы падзення палаючага самалёта ўстаноўлены памятны камень. У самой жа вёсцы з гэтага дня знаходзіцца манумент у выглядзе хваста крылатай машыны, што разбілася, з'явіліся вуліца і сквер імя У. Карвата. Дарэчы, У. Карват першым удастоены звання Герой Беларусі.**

*СВЯТА ПЕРШААСВЕТНІКАЎ*

### У ГОНАР КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ

**Міжнародны Дзень славянскага пісьменства і культуры, які святкуецца ў гонар святых братоў Кірылы і Мяфодзія, быў адзначаны 24 травеня ў Беларусі некалькімі мерапрыемствамі.**

Пачаўся ён з богаслужэння ў мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы. Потым пад мілагучны перазвон ад сабора адправіўся хрэсны ход. Яго ўдзельнікі ўсклалі кветкі да мемарыяльнай дошкі, устаноўленай у памяць святых Кірылы і Мяфодзія, і накіраваліся да памятнага знака на Замчышчы ў Старым горадзе, да месца, дзе некалі стаяў першы праваслаўны храм.

Прысутных, сярод якіх былі і прадстаўнікі пасольства Балгарыі ў Беларусі, а таксама госці са Славакіі, Масквы, Санкт-Пецярбурга і Рыгі, віталі Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, і міністр культуры краіны Аляксандр Сасноўскі.

*НАВІГАЦЫЯ*



З надыходам навігацыі ажывілася праца ў рачным порце Мазыра. Першымі спажыўцамі, каму рачнікі адгрузілі 34 платформы гравійна-пясчанай сумесі, сталі светлагорскія дарожнікі.

НА ЗДЫМКУ: у Мазырскім рачным порце.

*ЗДАРЭННІ*

### АРСЕНАЛ НА ДАЧЫ

**У адной з воінскіх часцей на Віцебшчыне жыхарка вёскі Мятлі Лёзненскага раёна добраахвотна здала звыш 60 гранат, а таксама вялікую колькасць патронаў рознага калібру. Увесь гэты арсенал, як расказала жанчына, яе пляменнікі знайшлі ў час будаўніцтва дачы непадалёку ад вёскі.**

# СТАТУТ САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

**Рэспубліка Беларусь і Расійская Федэрацыя, кіруючыся воляй народаў да супольнасці дзвюх дзяржаў, стварылі Саюз Беларусі і Расіі (далей называецца — Саюз).**

## ГЛАВА I
## ПРЫНЦЫПЫ І МЭТЫ САЮЗА

**Артыкул 1**

Рэспубліка Беларусь і Расійская Федэрацыя (далей называюцца — дзяржавы — удзельніцы Саюза), што стварылі Саюз, дзейнічаюць на аснове гэтага Статута, які з'яўляецца неад'емнай часткай Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года.

**Артыкул 2**

Устанаўліваецца грамадзянства Саюза. Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь і кожны грамадзянін Расійскай Федэрацыі з'яўляецца адначасова грамадзянінам Саюза.

**Артыкул 3**

Саюз засноўваецца на прынцыпах суверэннай роўнасці дзяржаў — удзельніц Саюза, дэмакратыі і павагі да правоў чалавека і грамадзяніна, супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі, дабравольнасці, добрасумленнага выканання ўзаемных абавязацельстваў і на іншых агульнапрызнаных прынцыпах і нормах міжнароднага права.

Перспектывы развіцця Саюза накіраваны на паслядоўны рух да дабравольнага аб'яднання дзяржаў — удзельніц Саюза на аснове свабоднага волевыяўлення іх народаў, зыходзячы з канстытуцый дзяржаў — удзельніц Саюза і агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права.

**Артыкул 4**

У межах паўнамоцтваў, нададзеных гэтым Статутам, Саюз валодае міжнароднай правасуб'ектнасцю.

**Артыкул 5**

Прававой асновай дзейнасці Саюза з'яўляюцца Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года, гэты Статут, іншыя дагаворы паміж дзяржавамі — удзельніцамі Саюза, нарматыўныя прававыя акты органаў Саюза, прынятыя ў межах іх кампетэнцыі.

Пры гэтым Дагавор аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1996 года, нарматыўныя прававыя акты, прынятыя раней органамі Супольніцтва Беларусі і Расіі, працягваюць дзейнічаць у частцы, што не супярэчыць Дагавору аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года, неад'емнай часткай якога з'яўляецца гэты Статут.

**Артыкул 6**

Мэтамі Саюза з'яўляюцца:

а) умацаванне адносінаў братэрства, дружбы і ўсебаковага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі — удзельніцамі Саюза ў палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, ваеннай, навуковай, культурнай і іншых галінах;

б) павышэнне ўзроўню жыцця народаў і стварэнне спрыяльных умоў для ўсебаковага гарманічнага развіцця асобы;

в) устойлівае сацыяльна-эканамічнае развіццё дзяржаў — удзельніц Саюза на аснове аб'яднання іх матэрыяльнага і інтэлектуальнага патэнцыялаў, выкарыстання рыначных механізмаў функцыянавання эканомікі;

г) збліжэнне нацыянальных прававых сістэм, фарміраванне прававой сістэмы Саюза;

д) забеспячэнне бяспекі і падтрыманне высокай абараназдольнасці, сумесная барацьба са злачыннасцю;

е) садзейнічанне забеспячэнню агульнаеўрапейскай бяспекі і развіццю ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ў Еўропе і свеце.

**Артыкул 7**

Удзельніцай Саюза можа стаць дзяржава — член Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якая падзяляе мэты і прынцыпы Саюза і прымае на сябе абавязацельствы, прадугледжаныя Дагаворам аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года і гэтым Статутам. Далучэнне да Саюза ажыццяўляецца са згоды дзяржаў — удзельніц Саюза.

Пры далучэнні да Саюза новай дзяржавы разглядаецца пытанне аб змяненні назвы Саюза.

## ГЛАВА II
## ЗАДАЧЫ САЮЗА

**Артыкул 8**

У палітычнай сферы задачамі Саюза з'яўляюцца:

а) узгадненне пазіцый і дзеянняў пры вырашэнні агульных палітычных праблем;

б) выпрацоўка агульных пазіцый па міжнародных пытаннях, якія маюць узаемную цікавасць;

в) ажыццяўленне ўзгодненых мераў па забеспячэнню міжнароднага міру і бяспекі, у тым ліку шляхам дасягнення міжнародных дамоўленасцей аб абмежаванні і скарачэнні ўзбраенняў і ваенных выдаткаў, аб ліквідацыі ядзернай і іншых відаў зброі масавага знішчэння;

г) садзейнічанне развіццю дэмакратыі ў Саюзе, захаванню і абароне правоў і асноўных свабод чалавека і грамадзяніна ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі прынцыпамі і нормамі міжнароднага права.

**Артыкул 9**

У эканамічнай сферы задачамі Саюза з'яўляюцца:

а) забеспячэнне дынамічнага эканамічнага развіцця дзяржаў — удзельніц Саюза;

б) стварэнне роўных умоў і гарантый дзейнасці суб'ектаў гаспадарання, адзінай эканамічнай прасторы дзяржаў — удзельніц Саюза;

в) фарміраванне і рэалізацыя ўзгодненай праграмы рыначных рэформаў з улікам асаблівасцей эканамічнага развіцця кожнай дзяржавы — удзельніцы Саюза;

г) стварэнне ўмоў для свабоднай эканамічнай канкурэнцыі суб'ектаў гаспадарання;

д) стварэнне і развіццё агульнай інфраструктуры і, у першую чаргу, аб'яднаных транспартнай і энергетычнай сістэм, сістэмы сувязі, адзінай навукова-тэхналагічнай і інфармацыйнай прасторы;

е) уніфікацыя грашова-крэдытных, бюджэтных і падатковых сістэм, а таксама стварэнне неабходных умоў для ўвядзення адзінай валюты;

ж) прымяненне ў адносінах з трэцімі краінамі аднолькавага рэжыму гандлю, агульных мытных тарыфаў, мераў нетарыфнага рэгулявання знешняга гандлю;

з) развіццё ўзаемнага гандлю і эфектыўнае функцыянаванне адзінай мытнай прасторы;

і) стварэнне ўмоў для дзейнасці сумесных транснацыянальных кампаній;

к) узгадненне структурнай палітыкі з мэтай эфектыўнага выкарыстання эканамічнага патэнцыялу дзяржаў — удзельніц Саюза;

л) забеспячэнне на тэрыторыі адной з дзяржаў — удзельніц Саюза грамадзянам і юрыдычным асобам іншай дзяржавы — удзельніцы Саюза нацыянальнага рэжыму ў галіне набыцця маёмасці, валодання, карыстання і распараджэння ёю.

**Артыкул 10**

У сацыяльнай сферы задачамі Саюза з'яўляюцца:

а) распрацоўка адзіных падыходаў пры вылічэнні памераў аплаты працы, пенсіённага забеспячэння, у тым ліку памераў дапамог ветэранам вайны, Узброеных Сіл і працы, інвалідам і малазабяспечаным сем'ям, а таксама пры вызначэнні льгот і іншых мераў сацыяльнай абароны;

б) забеспячэнне роўных правоў грамадзян дзяржаў — удзельніц Саюза пры атрыманні адукацыі, медыцынскай дапамогі, у працаўладкаванні, аплаце працы, прадастаўленні іншых сацыяльных гарантый;

в) устанаўленне адзіных нормаў у галіне аховы працы, сацыяльнага страхавання, вытворчай і сацыяльнай гігіены;

г) стварэнне агульнай інфармацыйнай базы даных па пытаннях занятасці насельніцтва і наяўнасці працоўных вакансій;

д) садзейнічанне развіццю адукацыі, узаемаўзбагачэнню культур, ажыццяўленню роўных умоў захавання і развіцця этнічнай, культурнай і моўнай самабытнасці народаў.

**Артыкул 11**

У сферы забеспячэння бяспекі задачамі Саюза з'яўляюцца:

а) прыняцце ў выпадку неабходнасці сумесных мераў па прадухіленню пагрозы суверэнітэту і незалежнасці кожнай з дзяржаў — удзельніц Саюза;

б) каардынацыя дзейнасці дзяржаў — удзельніц Саюза ў галіне ваеннага будаўніцтва і развіцця іх узброеных сіл, сумеснае выкарыстанне ваеннай інфраструктуры і прыняцце іншых мераў з улікам інтарэсаў дзяржаў — удзельніц Саюза для падтрымання як іх абараназдольнасці, так і абараназдольнасці Саюза ў цэлым;

в) распрацоўка і размяшчэнне сумеснага абароннага заказу, забеспячэнне на яго аснове паставак і рэалізацыі ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі, стварэнне аб'яднанай сістэмы тэхнічнага забеспячэння ўзброеных сіл дзяржаў — удзельніц Саюза;

г) ажыццяўленне ўзгодненай пагранічнай палітыкі, распрацоўка і рэалізацыя сумесных праграм па пагранічных пытаннях, арганізацыя ўзаемадзеяння органаў кіравання пагранічнымі войскамі дзяржаў — удзельніц Саюза па ахове граніц Саюза;

д) барацьба з карупцыяй, тэрарызмам і іншымі відамі злачыннасці.

**Артыкул 12**

У прававой сферы задачамі Саюза з'яўляюцца:

а) развіццё нарматыўнай прававой базы ў мэтах забеспячэння далейшай інтэграцыі дзяржаў — удзельніц Саюза;

б) уніфікацыя і ўзгодненае развіццё заканадаўства дзяржаў — удзельніц Саюза;

в) супрацоўніцтва ў галіне кадыфікацыі і сістэматызацыі нарматыўных прававых актаў;

г) узаемная юрыдычная дапамога, супрацоўніцтва ў стварэнні і развіцці інфармацыйных баз даных у розных галінах права.

**Артыкул 13**

Паўнамоцтвы Саюза і яго органаў накіраваны на забеспячэнне роўнасці палітычных і сацыяльна-эканамічных правоў грамадзян.

Асноўнымі абавязкамі дзяржаў — удзельніц Саюза з'яўляюцца:

забеспячэнне свабоды слова і сродкаў масавай інфармацыі;

забеспячэнне прававых гарантый дзейнасці афіцыйна зарэгістраваных партый і грамадскіх аб'яднанняў, у тым ліку апазіцыйных;

забеспячэнне гарантый недатыкальнасці прыватнай уласнасці;

прававое забеспячэнне інвестыцыйнай палітыкі і эфектыўная абарона правоў інвестараў у межах граніц Саюза;

гарантаванне свабоднай эканамічнай канкурэнцыі суб'ектаў гаспадарання;

захаванне іншых правоў і свабод чалавека і грамадзяніна, замацаваных у міжнародна-прававых дакументах і ў нацыянальным заканадаўстве.

**Артыкул 14**

Органы Саюза і дзяржавы — удзельніцы Саюза забяспечваюць выкананне задач Саюза, прадугледжаных артыкуламі 8—12 гэтага Статута.

Задачы Саюза рэалізуюцца органамі Саюза ў межах паўнамоцтваў і ў парадку, прадугледжаным гэтым Статутам, а органамі дзяржаў — удзельніц Саюза — у парадку, прадугледжаным для выканання міжнародна-прававых абавязацельстваў і нацыянальным заканадаўствам.

## ГЛАВА III
## ПАЎНАМОЦТВЫ САЮЗА

**Артыкул 15**

Дзяржавы — удзельніцы Саюза надзяляюць Саюз наступнымі паўнамоцтвамі:

а) забеспячэнне правоў грамадзян дзяржаў — удзельніц Саюза, якімі яны надзяляюцца як грамадзяне Саюза;

б) забеспячэнне роўнасці правоў грамадзян Саюза, пры атрыманні ўсіх відаў адукацыі і медыцынскай дапамогі, у працаўладкаванні, аплаце працы і іншых галінах;

в) прыняцце прававых актаў Саюза; стварэнне прававой сістэмы Саюза; узгадненне дзеянняў у працэсе развіцця заканадаўства дзяржаў — удзельніц Саюза;

г) стварэнне і рэгуляванне дзейнасці агульнага рынку ў галіне энергетыкі, транспарту і сувязі;

д) забеспячэнне свабоднага перамяшчэння тавараў, паслуг, капіталаў, рабочай сілы ў межах граніц Саюза;

е) правядзенне адзінай мытнай палітыкі, уключаючы забеспячэнне адзінства кіравання мытнай справай;

ж) забеспячэнне спрыяльных умоў для функцыянавання адзінай навуковай, тэхналагічнай і інфармацыйнай прасторы, правядзенне ўзгодненай структурнай палітыкі, рэалізацыя сумесных навуковых і тэхналагічных праграм;

з) забеспячэнне адзінага падыходу ў прававым рэгуляванні інтэлектуальнай уласнасці;

і) каардынацыя дзейнасці ў сферы валютнага рэгулявання;

к) увядзенне адзіных стандартаў, правілаў бухгалтарскага ўліку, вядзенне адзінай статыстыкі;

л) распрацоўка, зацвярджэнне і выкананне бюджэту Саюза;

м) выкарыстанне маёмасці Саюза;

н) кантроль за выкананнем прынятых рашэнняў, уключаючы выкананне бюджэту Саюза;

о) увядзенне сімволікі Саюза.

Дзяржавы-ўдзельніцы могуць перадаваць Саюзу таксама іншыя паўнамоцтвы ў парадку, прадугледжаным артыкулам 36 гэтага Статута.

**Артыкул 16**

У мэтах рэалізацыі задач Саюза дзяржавы — удзельніцы Саюза прымаюць узгодненыя рашэнні па наступных пытаннях:

а) распрацоўка і ажыццяўленне сумесных праграм у эканамічнай, сацыяльнай, экалагічнай і культурнай галінах;

б) арганізацыя ўзаемадзеяння дзяржаў — удзельніц Саюза ў галіне знешняй палітыкі па пытаннях, якія маюць узаемную цікавасць;

в) каардынацыя знешнеэканамічнай палітыкі, у тым ліку ў дачыненні да тавараў і паслуг, якія перамяшчаюцца праз мытную мяжу Саюза, уключаючы ліцэнзаванне, рэгуляванне цэн і іншыя меры нетарыфнага рэгулявання, устанаўленне ставак увазных і вывазных пошлін і памераў іншых мытных плацяжоў (уключаючы акцызы), іншых падаткаў, звязаных са знешнеэканамічнай дзейнасцю, а таксама ўзгодненага механізма іх прымянення;

г) забеспячэнне калектыўнай бяспекі дзяржаў — удзельніц Саюза;

д) узаемадзеянне ў забеспячэнні тэрытарыяльнай недатыкальнасці дзяржаў — удзельніц Саюза і аховы межаў Саюза;

е) забеспячэнне барацьбы з арганізаванай злачыннасцю, карупцыяй, тэрарызмам і іншымі відамі злачынстваў;

ж) фарміраванне ўзгодненых прававых асноў эканамічнага, сацыяльна-культурнага развіцця дзяржаў — удзельніц Саюза, уніфікацыя прававога рэжыму ўтварэння і дзейнасці юрыдычных асоб;

з) распрацоўка адзіных падыходаў пры вызначэнні мераў сацыяльнай абароны, у тым ліку ў галіне занятасці, аховы працы, вытворчай і сацыяльнай гігіены, сацыяльнага страхавання, пенсіённага забеспячэння;

і) уніфікацыя грашова-крэдытных, бюджэтных і валютных сістэм, фінансавых рынкаў, узгадненне асноў антыманапольнага, падатковага і інвестыцыйнага заканадаўства;

к) каардынацыя дзейнасці ў галіне аховы навакольнага асяроддзя, гідраметэаралогіі, забеспячэнне экалагічнай бяспекі, ліквідацыя наступстваў стыхійных бедстваў і аварый, перш за ўсё аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Па пералічаных у гэтым артыкуле пытаннях органы Саюза прымаюць рашэнні ў адпаведнасці з іх кампетэнцыяй або дзяржавы — удзельніцы Саюза, у выпадку неабходнасці, заключаюць міжнародныя дагаворы.

**Артыкул 17**

Гэты Статут не закранае правоў і абавязацельстваў дзяржаў — удзельніц Саюза па іншых міжнародных дагаворах, у тым ліку прынятых у рамках Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

## ГЛАВА IV
## ГРАМАДЗЯНСТВА САЮЗА

**Артыкул 18**

Наяўнасць у грамадзяніна Рэспублікі Беларусь і грамадзяніна Расійскай Федэрацыі грамадзянства Саюза не прымяншае яго правоў і свабод і не вызваляе ад абавязкаў, якія вынікаюць з грамадзянства адпаведнай дзяржавы — удзельніцы Саюза.

Разам з правамі і абавязкамі, якія вынікаюць з грамадзянства адпаведнай дзяржавы — удзельніцы Саюза, грамадзяне Саюза надзяляюцца правамі і выконваюць абавязкі, звязаныя з грамадзянствам Саюза.

Грамадзянін Саюза мае права:

а) на свабоднае перамяшчэнне і пастаяннае пражыванне ў межах тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і тэрыторыі Расійскай Федэрацыі з выкананнем правілаў, якія ўстаноўлены законамі гэтых дзяржаў у дачыненні да асобных раёнаў і мясцовасцей;

б) на абарону на тэрыторыі трэцяй краіны, дзе няма прадстаўніцтва дзяржавы — удзельніцы Саюза, грамадзянінам якой ён з'яўляецца з боку дыпламатычных прадстаўніцтваў ці консульскіх устаноў іншай дзяржавы — удзельніцы Саюза на тых жа ўмовах, што і грамадзяне гэтай дзяржавы;

в) на ўдзел у кіраванні справамі Саюза;

г) на валоданне, карыстанне і распараджэнне маёмасцю на тэрыторыі іншай дзяржавы — удзельніцы Саюза на тых жа ўмовах, што і грамадзяне гэтай дзяржавы.

Грамадзянін Саюза, які пастаянна пражывае ў іншай дзяржаве — удзельніцы Саюза, мае права выбіраць і быць выбраным у органы мясцовага самакіравання на тэрыторыі гэтай дзяржавы.

## ГЛАВА V
## ОРГАНЫ САЮЗА

**Артыкул 19**

Для рэалізацыі задач Саюза дзяржавы — удзельніцы Саюза ўтвараюць на парытэтных асновах Вышэйшы Савет Саюза, Парламенцкі Сход Саюза, Выканаўчы Камітэт Саюза і, у выпадку неабходнасці, іншыя органы Саюза.

Рашэнні органаў Саюза прымаюцца ў межах іх кампетэнцыі і без урону канстытуцыям дзяржаў — удзельніц Саюза. Пры гэтым рашэнні Вышэйшага Савета Саюза і Выканаўчага Камітэта Саюза падлягаюць непасрэднаму выкананню органамі Саюза і, з захаваннем патрабаванняў заканадаўстваў дзяржаў — удзельніц Саюза, іх органамі выканаўчай улады.

Пры неабходнасці органы дзяржаўнай улады дзяржаў — удзельніц Саюза прыводзяць свае прававыя акты ў адпаведнасць з рашэннямі органаў Саюза або выдаюць прававыя акты, якія забяспечваюць рэалізацыю гэтых рашэнняў.

## ГЛАВА VI
## ВЫШЭЙШЫ САВЕТ САЮЗА

**Артыкул 20**

Вышэйшым органам Саюза з'яўляецца Вышэйшы Савет Саюза, у які ўваходзяць кіраўнікі дзяржаў, кіраўнікі ўрадаў, кіраўнікі палат парламентаў дзяржаў — удзельніц Саюза, а таксама старшыня Выканаўчага Камітэта Саюза з правам дарадчага голасу.

Вышэйшы Савет Саюза:

а) вырашае важнейшыя пытанні развіцця Саюза;

б) разглядае пытанні, што закранаюць правы і свабоды грамадзян Саюза;

в) утварае ў межах сваёй кампетэнцыі органы Саюза, забяспечвае іх узаемадзеянне, вызначае іх месцазнаходжанне і ўмовы іх знаходжання;

г) зацвярджае бюджэт Саюза, разгледжаны Парламенцкім Сходам Саюза;

д) прымае нарматыўныя прававыя акты Саюза і зацвярджае міжнародныя дагаворы Саюза, разгледжаныя Парламенцкім Сходам Саюза;

е) забяспечвае ўзаемадзеянне органаў Саюза з органамі дзяржаўнай улады дзяржаў — удзельніц Саюза;

ж) прымае рашэнне па пытаннях забеспячэння бяспекі дзяржаў — удзельніц Саюза, іх калектыўнай абароны ад знешніх замахаў, аховы граніц Саюза, ваеннага будаўніцтва, барацьбы са злачыннасцю;

з) не радзей чым адзін раз у год заслухоўвае справаздачу Выканаўчага Камітэта Саюза аб рэалізацыі прынятых органамі Саюза рашэнняў, у тым ліку аб выкананні бюджэту Саюза.

Вышэйшы Савет Саюза вырашае іншыя пытанні, што аднесены гэтым Статутам да паўнамоцтваў Саюза або перададзены на яго разгляд дзяржавамі — удзельніцамі Саюза ў адпаведнасці з артыкулам 16 гэтага Статута.

Рашэнні Вышэйшага Савета Саюза прымаюцца на аснове аднагалоснасці па прынцыпу "адна дзяржава — адзін голас". Галасаванне на пасяджэннях Вышэйшага Савета Саюза ад імя дзяржаў — удзельніц Саюза ажыццяўляюць іх прэзідэнты. Работа Вышэйшага Савета Саюза вядзецца на аснове зацвярджаемых ім Статута і Правілаў працэдуры Вышэйшага Савета Саюза.

**Артыкул 21**

Старшынёй Вышэйшага Савета Саюза пачаргова з'яўляецца адзін з Прэзідэнтаў дзяржаў — удзельніц Саюза.

Старшыня Вышэйшага Савета Саюза:

арганізоўвае работу Вышэйшага Савета Саюза;

старшынствуе на яго пасяджэннях;

па даручэнню Вышэйшага Савета Саюза вядзе міжнародныя перагаворы, заключае ад імя Саюза і са згоды Вышэйшага Савета Саюза і ў межах дадзеных Вышэйшым Саветам Саюза паўнамоцтваў міжнародныя дагаворы, прадстаўляе Саюз у адносінах з замежнымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі.

Рашэнні, прынятыя Вышэйшым Саветам Саюза, падпісваюцца Прэзідэнтамі дзяржаў — удзельніц Саюза.

## ГЛАВА VII
## ПАРЛАМЕНЦКІ СХОД САЮЗА

**Артыкул 22**

Парламенцкі Сход Саюза з'яўляецца прадстаўнічым органам Саюза.

Парламенцкі Сход Саюза складаецца з дэпутацый, якія дэлегуюцца адпаведна Нацыянальным Сходам Рэспублікі Беларусь і Федэральным Сходам Расійскай Федэрацыі. Кожная парламенцкая дэпутацыя ўключае роўную колькасць прадстаўнікоў: па 36 ад дзяржавы — удзельніцы Саюза.

Дэлегаванне прадстаўнікоў у састаў Парламенцкага Сходу Саюза, а таксама іх адкліканне ажыццяўляюцца парламентамі дзяржаў — удзельніц Саюза ў адпаведнасці з іх рэгламентамі. Тэрмін дзеяння і парадак спынення паўнамоцтваў дэпутацый вызначаюцца адпаведным парламентам самастойна.

**Артыкул 23**

Парламенцкі Сход Саюза:

а) вырашае пытанні развіцця нарматыўнай прававой базы інтэграцыі дзяржаў — удзельніц Саюза ў палітычнай, прававой, эканамічнай, сацыяльнай, гуманітарнай і іншых галінах;

б) прымае нарматыўныя прававыя акты, якія маюць статус заканадаўчай рэкамендацыі Саюза, што падлягаюць першачарговаму разгляду і прыняццю ва ўстаноўленым парадку пар-

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

# СТАТУТ САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

ламентамі дзяржаў — удзельніц Саюза ў мэтах уніфікацыі іх заканадаўства;

в) уносіць прапановы па пытаннях развіцця нарматыўнай прававой базы Саюза ў Вышэйшы Савет Саюза і ў органы дзяржаў — удзельніц Саюза, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы;

г) садзейнічае уніфікацыі заканадаўства дзяржаў — удзельніц Саюза;

д) забяспечвае ўзаемадзеянне парламентаў дзяржаў — удзельніц Саюза па пытаннях, якія маюць узаемную цікавасць;

е) заслухоўвае інфармацыю аб дзейнасці Выканаўчага Камітэта Саюза;

ж) разглядае праект бюджэту Саюза;

з) ажыццяўляе кантрольныя функцыі ў межах, устаноўленых гэтым Статутам;

і) заслухоўвае пасланні Вышэйшага Савета Саюза аб асноўных напрамках развіцця Саюза;

к) разглядае міжнародныя дагаворы, заключаныя ад імя Саюза;

л) садзейнічае абмену прававой інфармацыяй, удзельнічае ў стварэнні адзінай інфармацыйна-прававой сістэмы Саюза;

м) заключае пагадненні аб супрацоўніцтве з парламентамі замежных дзяржаў і міжнароднымі парламенцкімі арганізацыямі;

н) ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы ў адпаведнасці з гэтым Статутам.

**Артыкул 24**

Чарговыя пасяджэнні Парламенцкага Сходу Саюза праводзяцца два разы ў год.

Пасяджэнні Парламенцкага Сходу Саюза правамоцныя, калі на іх прысутнічае не менш чым дзве трэці ад агульнага саставу кожнай дэпутацыі.

Работа Парламенцкага Сходу Саюза вядзецца на аснове яго Рэгламенту.

Парламенцкі Сход Саюза ўтварае з ліку сваіх членаў пастаянныя і часовыя камісіі, якія ўзаемадзейнічаюць з адпаведнымі камітэтамі і камісіямі палат парламентаў дзяржаў — удзельніц Саюза па пытаннях свайго ведання.

Старшыня Парламенцкага Сходу Саюза і яго першы намеснік выбіраюцца на ратацыйнай аснове Парламенцкім Сходам Саюза са свайго саставу тэрмінам на адзін год.

Старшыня Парламенцкага Сходу Саюза і яго першы намеснік не могуць быць грамадзянамі адной дзяржавы — удзельніцы Саюза.

Старшыня Парламенцкага Сходу Саюза, яго намеснікі і кіраўнікі пастаянных камісій утвараюць Савет Парламенцкага Сходу Саюза.

Забеспячэнне дзейнасці Парламенцкага Сходу Саюза ажыццяўляецца адпаведным апаратам.

**Артыкул 25**

Правам унясення праектаў прававых актаў у Парламенцкі Сход Саюза валодаюць: органы Саюза, кіраўнікі дзяржаў, парламенты, урады дзяржаў — удзельніц Саюза, дэпутацыі Беларусі і Расіі, а таксама групы дэпутатаў колькасцю не менш чым адна пятая ад агульнай колькасці дэпутатаў Парламенцкага Сходу Саюза.

Рашэнне Парламенцкага Сходу Саюза лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала большасць ад агульнага саставу кожнай дэпутацыі.

**Артыкул 26**

Дзяржавы — удзельніцы Саюза ствараюць умовы дляператварэння Парламенцкага Сходу Саюза ў прадстаўнічы і заканадаўчы орган Саюза, які выбіраецца непасрэдна грамадзянамі Саюза.

### ГЛАВА VIII
### ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ САЮЗА

**Артыкул 27**

Выканаўчы Камітэт Саюза з'яўляецца пастаянна дзеючым выканаўчым органам Саюза.

Старшыня Выканаўчага Камітэта Саюза і яго намеснікі назначаюцца на пасаду і вызваляюцца ад пасады Вышэйшым Саветам Саюза.

Выканаўчы Камітэт Саюза фарміруецца Вышэйшым Саветам Саюза. У састаў Выканаўчага Камітэта ўваходзіць роўная колькасць прадстаўнікоў дзяржаў-удзельніц. Персанальны састаў прадстаўнікоў дзяржаў-удзельніц у Выканаўчым Камітэце зацвярджаецца кіраўніком адпаведнай дзяржавы.

**Артыкул 28**

Функцыі і паўнамоцтвы Выканаўчага Камітэта Саюза, а таксама парадак яго дзейнасці вызначаюцца палажэннем аб ім, якое зацвярджаецца Вышэйшым Саветам Саюза па прапанове Выканаўчага Камітэта Саюза.

Рашэнні Выканаўчага Камітэта прымаюцца на аснове аднагалоснасці па прынцыпу "адна дзяржава — адзін голас".

Выканаўчы Камітэт Саюза штогод прадстаўляе справаздачу Вышэйшаму Савету Саюза і інфармацыю Парламенцкаму Сходу Саюза аб ходзе выканання праектаў і праграм Саюза.

Рашэнне Выканаўчага Камітэта Саюза можа быць прыпынена ці адменена Вышэйшым Саветам Саюза.

Выканаўчы Камітэт Саюза мае апарат, колькасць якога ўстанаўліваецца Вышэйшым Саветам Саюза. Кіраўніком апарату з'яўляецца кіраўнік спраў Выканаўчага Камітэта Саюза, які прызначаецца на пасаду і вызваляецца ад пасады Вышэйшым Саветам Саюза.

**Артыкул 29**

Для выканання функцый, прадугледжаных гэтым Статутам, рашэннямі Вышэйшага Савета Саюза на падставе прапаноў Выканаўчага Камітэта Саюза могуць засноўвацца на парытэтнай аснове органы Саюза галіновага і іншага характару, а таксама арганізацыі. Кожны з гэтых органаў (арганізацый) дзейнічае на падставе адпаведнага палажэння аб ім, якое зацвярджаецца Вышэйшым Саветам Саюза або, па яго даручэнню, Выканаўчым Камітэтам Саюза.

### ГЛАВА IX
### БЮДЖЭТ І ФІНАНСЫ

**Артыкул 30**

Бюджэт Саюза фарміруецца ў мэтах фінансавання сумесных праграм, праектаў і мерапрыемстваў, а таксама ўтрымання органаў Саюза.

Выканаўчы Камітэт Саюза распрацоўвае і прадстаўляе праект бюджэту Саюза на разгляд Парламенцкаму Сходу Саюза і на зацвярджэнне Вышэйшаму Савету Саюза.

Бюджэт Саюза фарміруецца за кошт:

а) адлічэнняў, прадугледжаных бюджэтамі дзяржаў — удзельніц Саюза, па нарматывах і ў сумах, якія зацвярджаюцца парламентамі дзяржаў — удзельніц Саюза;

б) паступленняў ад выкарыстання маёмасці Саюза;

в) іншых паступленняў.

Утрыманне органаў Саюза ажыццяўляецца за кошт сродкаў бюджэту Саюза, калі іншае не ўстаноўлена рашэннямі Вышэйшага Савета Саюза.

Пытанні фінансава-гаспадарчай дзейнасці органаў Саюза рэгулююцца Выканаўчым Камітэтам Саюза ў адпаведнасці з нарматыўнымі прававымі актамі Саюза.

Дзяржавы — удзельніцы Саюза самастойна нясуць выдаткі, звязаныя з ажыццяўленнем мерапрыемстваў, не прадугледжаных бюджэтам Саюза.

**Артыкул 31**

Дзяржавы — удзельніцы Саюза ствараюць неабходныя ўмовы для забеспячэння ўзаемнай канверсоўнасці сваіх валют па бягучых аперацыях.

Рашэнне аб фарміраванні адзінага эмісійнага цэнтра будзе прынята дзяржавамі — удзельніцамі Саюза ў працэсе уніфікацыі іх грашовых сістэм.

**Артыкул 32**

Дзяржавы — удзельніцы Саюза могуць перадаваць у карыстанне органам Саюза маёмасць, неабходную для ажыццяўлення ўскладзеных на іх паўнамоцтваў. Гэтая маёмасць выкарыстоўваецца выключна для ажыццяўлення задач Саюза, прадугледжаных гэтым Статутам.

### ГЛАВА X
### СЛУЖБОВЫЯ АСОБЫ ОРГАНАЎ САЮЗА І ІХ АПАРАТАЎ

**Артыкул 33**

Службовымі асобамі органаў Саюза і іх апаратаў прызначаюцца грамадзяне дзяржаў — удзельніц Саюза.

Службовыя асобы органаў Саюза і іх апаратаў:

не могуць сумяшчаць работу ў апаратах органаў Саюза з іншай аплатнай дзейнасцю, за выключэннем педагагічнай, навуковай ці іншай творчай дзейнасці;

не маюць права займацца дзейнасцю, несумяшчальнай з іх статусам службовых асоб апаратаў органаў Саюза, і выкарыстоўваць сваё службовае становішча, у прыватнасці, у інтарэсах палітычных партый і аб'яднанняў.

Прававы статус службовых асоб органаў Саюза і іх апаратаў рэгулюецца асобным пагадненнем.

Службовыя асобы органаў Саюза і іх апаратаў пры выкананні сваіх службовых абавязкаў карыстаюцца сацыяльна-бытавым, медыцынскім і транспартным абслугоўваннем, а таксама сродкамі сувязі ў парадку і на ўмовах, устаноўленых заканадаўствам дзяржавы знаходжання для адпаведных груп дзяржаўных пасад.

Пенсіённае забеспячэнне службовых асоб органаў Саюза і іх апаратаў ажыццяўляецца ў парадку і на ўмовах, што вызначаюцца заканадаўствам дзяржаў — удзельніц Саюза, грамадзянамі якіх яны з'яўляюцца, для дзяржаўных служачых.

### ГЛАВА XI
### УРЭГУЛЯВАННЕ РОЗНАГАЛОССЯЎ

**Артыкул 34**

Пры ўзнікненні рознагалоссяў па прымяненню ці тлумачэнню Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года і гэтага Статута дзяржавы — удзельніцы Саюза вырашаюць іх шляхам узаемных кансультацый і перагавораў.

Дзяржавы — удзельніцы Саюза прадухіляюць магчымыя рознагалоссі праз адпаведныя органы Саюза.

Вышэйшы Савет Саюза правамоцны ажыццяўляць належныя пагаджальныя працэдуры для ўрэгулявання рознагалоссяў.

У выпадку прыняцця дзяржавай — удзельніцай Саюза нарматыўнага прававога акта, які супярэчыць гэтаму Статуту ці прынятым у адпаведнасці з ім нарматыўным прававым актам Саюза, Вышэйшы Савет Саюза і, у межах сваіх паўнамоцтваў, Выканаўчы Камітэт Саюза, звяртаюць увагу органаў гэтай дзяржавы на такое парушэнне з мэтай яго ўстаранення.

Дзяржавы — удзельніцы Саюза заснуюць Суд Саюза.

### ГЛАВА XII
### ВЫХАД З САЮЗА

**Артыкул 35**

Дзяржава — удзельніца Саюза мае права выйсці з Саюза. Аб намеры спынення свайго ўдзелу ў Саюзе яна пісьмова паведамляе Вышэйшаму Савету Саюза і другой дзяржаве-ўдзельніцы за 12 месяцаў да выхаду.

Выхад аднаго з удзельнікаў Саюза не ўплывае на выкананне ім абавязацельстваў, якія ўзніклі ў перыяд удзелу ў Саюзе і рэалізацыя якіх абумоўлена пэўным перыядам часу.

### ГЛАВА XIII
### ЗАКЛЮЧНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 36**

Папраўкі да гэтага Статута могуць быць прапанаваны дзяржавай — удзельніцай Саюза, Вышэйшым Саветам Саюза і Парламенцкім Сходам Саюза. Праекты рашэнняў па прыняццю паправак разглядаюцца Вышэйшым Саветам Саюза.

Папраўкі падлягаюць ратыфікацыі дзяржавамі — удзельніцамі Саюза і ўступаюць у сілу з дня абмену ратыфікацыйнымі граматамі.

**Артыкул 37**

Для вырашэння прынцыповых пытанняў, звязаных з далейшым развіццём Саюза, могуць праводзіцца рэферэндумы ў адпаведнасці з заканадаўствам дзяржаў — удзельніц Саюза.

**Артыкул 38**

Афіцыйнымі мовамі Саюза з'яўляюцца беларуская і руская мовы.

У якасці рабочай мовы органаў Саюза выкарыстоўваецца руская мова.

**Артыкул 39**

Вышэйшы Савет і Парламенцкі Сход, створаныя ў адпаведнасці з артыкуламі 9 і 10 Дагавора аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1996 года, пераўтвараюцца адпаведна ў Вышэйшы Савет Саюза і Парламенцкі Сход Саюза ў парадку, узгодненым Прэзідэнтамі дзяржаў — удзельніц Саюза.

Выканаўчы Камітэт, створаны ў адпаведнасці з артыкулам 11 Дагавора аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1996 года, а таксама іншыя органы Супольніцтва Беларусі і Расіі выконваюць свае функцыі да прыняцця Вышэйшым Саветам Саюза рашэння аб пераўтварэнні іх у адпаведныя органы Саюза.

**Артыкул 40**

Гэты Статут падлягае ратыфікацыі разам з Дагаворам аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года і ўступае ў сілу з дня абмену ратыфікацыйнымі граматамі.

Здзейснена ў г. Маскве 23 мая 1997 года ў двух экземплярах, кожны на беларускай і рускай мовах, прычым абодва тэксты маюць аднолькавую сілу.

**За Рэспубліку Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**
**За Расійскую Федэрацыю**
**Б. ЕЛЬЦЫН.**

## ПАГРАНІЧНІКІ



**Пагранічная застава імя Героя Савецкага Саюза Андрэя Кіжаватава ў 1941 годзе знаходзілася на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці і абараняла яе ад ворага, пакуль не загінуў апошні салдат.**

**Сёння тут служаць хлопцы з розных гарадоў і вёсак нашай рэспублікі, захоўваючы статус узорнай заставы. Для парушальнікаў мяжы па-ранейшаму яна зачынена на замок.**

**НА ЗДЫМКУ: кантрольна-следавая паласа правяраецца па некалькі разоў у суткі.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## *З ВІЛЕНШЧЫНЫ*

# «ВІЛЕНСКІЯ МРОІ»

Напрыканцы красавіка віленскія гледачы мелі магчымасць сустрэцца з беларускім паэтычным тэатрам аднаго акцёра "Зьніч", вядомым як тэатр Галіны Дзягілевай. Менавіта яна з'яўляецца яго заснавальнікам, адзіным акцёрам і аўтарам большасці спектакляў. Артыстка прыязджае ў Вільню не ўпершыню. Таму віленчукі ўжо мелі магчымасць убачыць такія спектаклі, як "Белы сон" па творчасці Ларысы Геніюш, ацаніць высокі мастацкі ўзровень тэатра і артысткі. Усіх герояў спектакляў Галіны Дзягілевай яднае ідэйнасць і бязмерная любоў да Бацькаўшчыны, да беларускага народа.

Гэтым разам артыстка паказала спектакль "Віленскія мроі", падзеі якога звязаны з нашым горадам.

Гісторыя сапраўднага кахання, непадуладнага нават смерці, — вечная і самая хвалюючая тэма мастацтва. Пра такое каханне спектакль. Лірычны герой — Іван Луцкевіч, вядомы дзеяч беларускага Адраджэння пачатку нашага стагоддзя, палітык, археолаг, асветнік, стваральнік беларускага музея, заснавальнік газеты "Наша ніва" і беларускай гімназіі ў Вільні, чалавек, які зрабіў неацэнны ўклад у станаўленне беларускай дзяржаўнасці. У спектаклі ён убачаны вачыма каханай жанчыны — Юльяны Вітан-Дубейкаўскай з роду Мэнке. Віленская немка прысвяціла жыццё беларускаму Адраджэнню, каханаму чалавеку, з ім дзяліла яго ідэі. Каханне звязана з лёсам нашай Бацькаўшчыны.

Спектакль створаны паводле ўспамінаў Юльяны Дубейкаўскай, напісаных амаль праз сорак гадоў пасля смерці Івана Луцкевіча. Гэта гісторыя ахвярнага кахання жанчыны і безнадзейна хворага мужчыны. Галіна Дзягілева з незвычайнай сілай увасобіла ўчынкі і паводзіны каханай жанчыны складанага лёсу. Артыстка захапіла гледачоў сваёй шчырасцю, дабрынёй, жаданнем дабра для дзяцей, знешнімі і ўнутранымі якасцямі.

Вядома адно: тэатр "Зьніч" — інтэлектуальны. Гледачы пасля спектакля, многія з слязамі на вачах, не спяшаліся разыходзіцца. Да глыбіні душы крануў спектакль, цудоўнае афармленне, якое нагадвае інтэр'ер пакоя ў музеі.

Я веру, упэўнена: актрыса абавязкова прыедзе сюды зноў. Тут, у Вільні, яна дарагая кожнаму свядомаму беларусу. Тут у сэрцах шматлікіх паклоннікаў яе таленту застаецца часцінка яе душы, цудоўнай жанчыны і актрысы.

**Леакадзія МІЛАШ.**
г. Вільня.

# ГОДНАСЦЬ СМУТНАЙ РАДАСЦІ І СВЕТЛАГА БОЛЮ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

нага рашэння. З асцярогай, глянуўшы на нас, паклала руку на плячо Канстанцыі Буйло, партрэт якой тады стварыў З. Азгур. Ціхенька прамовіла: "Купала называў яе "Буйлянка", праўда?" І ледзь чутна праспявала "Люблю наш край, старонку гэту..."

Яе затрымлівалі каля сябе партрэты людзей нялёгкай долі. Мо гэта тлумачыцца яе прафесіяй: актрыса часта пераўвасабляецца ў вобраз гераіні, якая прадчувае... якой наканавана... або якая ўжо зведала азмрочаную пазней радасць, падобную на шчасце, ці перажывае боль, прасветлены тым, што ён нібы пачуццёвая расплата за тыя гады або тыдні, за гадзіны, а то і за хвіліны ўсцешанай патолі, якую жанчына адчувае ўсёй сваёй істотай. Ад галавы да пятак. Нервамі і навобмацак. Вуснамі, якія цалуе каханы. І грудзямі, да якіх прынікае ўсёй сваёй пяшчотай немаўля.

Што нешта блізкае да ўсяго гэтага актрыса Акружная па-жыццёваму і сцэнічна зазнала, я здагадваўся. Помню, убачыў яе з букетам палымяна-ружовых флёксаў у Мінску на старой Нямізе ў натоўпе. Жнівеньскі ветрык узнімаў каўнерык яе сукенкі. Яна спяшалася... Ведаю — куды. Бо заўсёды, калі яна наязджае ў сталіцу, першы яе маршрут — на магілу Вучыцеля. Да месца вечнага спакою Дзмітрыя Арлова. Выдатны артыст, тонкі педагог-псіхолаг, знаўца творчага працэсу і творчых пакут акцёра, ён выхаваў многіх майстроў беларускай сцэны, што і цяпер лічацца яе зоркамі. Удзячныя павек вучні звычайна запознена, але абавязкова здагадваюцца, што іх Вучыцель рабіў цуд. Вызваляў вучняў ад комплексу непаўнацэннасці. Ад недаверу да саміх сябе. Ад палахлівасці перад аўтарытэтам. Ад фанабэрлівага самаўзвышэння і ад карэжліва-манернага прытворства. "На сцэне няма чаго рабіць таму, хто жыве без гарэзлівых нячысцікаў у душы", — казаў Вучыцель Святлане Акружной.

І колькі я ведаю С. Акружную па сцэне, той заўсёды творчы нерв, тыя па-мастацку гарэзлівыя нячысцікі ў ёй надаюць яе ролям высокі кшталт сапраўднага мастацтва. Мастацтва як Хараства ў паказе жывога жыцця ва ўсёй яго блытаніне. Даўняе маё ўражанне... Ад тых хвілін, калі я ў спектаклі коласаўцаў "Улада цемры" пачуў гэты па-дзіцячы пералівісты галасок Анюткі. Нібы спалоханы анёл, гэты голас шукаў прытулку, спагады, суцішэння. Мароз па спіне прабягаў, калі ты чуў з трапяткіх вуснаў дзіцяці: "Дзядуля, золатка! Не тушы зусім! Хоць з мышынае вочка пакінь, а то страшна..."

Просьба не гасіць газнічку ў цёмнай хаце раптам загучала мальбой пра святло, пра сонца, пра справядлівасць на гэтым свеце, у зямным гэтым змроку. Анютка заставалася па-дзіцячы даверлівай. І жахлівая здагадка пра жывёльнае ў людзях трымцела ў яе спадзяванні: маўляў, кажуць, душа нябожчыка-малалеткі на неба ўзлятае, дык ці праўда тое, дзядуля? З невычэрпнай тугой разам з тым неяк летуценна яна выгукала: "Вось каб і я памерла..."

Якое зайздроснае ўмельства — больш красамоўна за ўсе словы на ўсіх мовах — па-акцёрску тонам-інтанацыяй навесці нас на думку пра тое, што за сценамі хаты вось цяпер дарослыя людзі, блізкія ёй, дзяўчынцы Анютцы, забіваюць... учыняюць жудаснае злачынства. Там, у вясковым наваколлі, ва ўсім свеце няма праўды, няма справядлівасці. Малеча, яна нібы пабыла ўжо ў злым і нялюдскім свеце дарослых; яна ўжо зведала, што яе чакае, калі яна вырасце і душою зажадае кахаць і быць каханай.

А ў майстэрні Заіра Азгура сама яна, С. Акружная, выглядала такой жа наіўнай і па-дзіцячы даверлівай, калі раптам асмелілася спытаць гаспадара. Павяла вачамі па высачэзных постацях куміраў і ціхенька спытала:

— Маэстра Азгур, кажуць... і пішуць... цытуюць дакументы... Ну атрымліваецца, што вось гэты правадыр быў злачынна помслівым... свавольна, зусім беспадстаўна аддаваў на гібель нават сваіх родных... адданых яму паплечнікаў... перасяляў з вякамі наседжаных гнёздаў цэлыя народы... А вы... даруйце... вы яго гэнымі статуямі і партрэтамі ўслаўляеце... абагаўляеце...

Маэстра Азгур сумнавата ўсміхаўся. Колькі чуў ён тады, на пачатку 90-х гадоў, такіх пытанняў і такіх ацэнак! Сказаў, што актрыса павінна ведаць па сваім асабістым творчым даробку, як чалавек прыродай... нат Богам... надзелены рознымі якасцямі. Супярэчлівымі. Бо створаны як надзіва мітуслівая, па-сапраўднаму нясталая, няўстойліва-хісткая ў сваіх жаданнях і памкненнях істота. Велічны ў адных справах і крыўдна слабы, нават ганебна нізкі...

— Подлы, — ледзь варухнула губамі Святлана.

— І подлы! Ды толькі вось мая прафесія... від мастацтва, што завецца скульптурай... Скульптар і сапраўды ўзнімае чалавека на п'едэстал... ён вылучае... акцэнтуе... падкрэслівае ў чалавеку лепшыя яго рысы і задаткі... Выяўляць сатанінскае ў чалавечай натуры наканавана іншым відам мастацтва. Вашаму, напрыклад, артыстычнаму... Маці нараджае дзіця, у якім патэнцыяльна жыве ўжо і высакародны герой, і бездакорны рыцар, і падлюга, і нават забойца... У ім дрэмле Ісус Хрыстос, дрэмле і Юда...

Вось тут пад столь Азгуравай майстэрні ўзляцеў кароткі, бы рэвальверны стрэл, воклiч.

— Не!.. Маці... жанчына... ніколі не нараджае дзіця з некім сатанінскім зародкам у ім... Маё дзіця не павінна... не мае права быць Юдам... і калі жыццёвыя варункі ў суладдзі з людскім асяроддзем штурхаюць яго... патураюць у ім... прымушаюць яго парушаць біблейскія запаведзі... дык толькі супраць яго натуральнага прызначэння... насуперак матчыным спадзяванням... Не на тое благаславіў мяне Бог, калі я адчула, што буду мацеркай...

Так прыблізна яна гаварыла, адчуўшы ў майстэрні Заіра Азгура больш востра нейкую чароўную загадку свайго прызвання. Артыстычнага мастацтва. Яно здатна хваляваць. Захапляць. Даваць прыклад і паказваць узорнае. Суцяшаць. Падкрэсліваць прыгожае і выкрываць ганебнае. Што ж, на тое ты — блазен, акцёр, відачын, камедыянт. І калі гэта трэба паводле п'есы, ты, выканаўца ролі, абавязаны адшукаць у сабе і нешта светла боскае, і штосьці д'ябальскае... Вось я прыгадваю тое, і мне зноў бачыцца С. Акружная на сцэне.

Праз дваццаць гадоў пасля талстоўскай "Улады цемры" коласаўцы выводзяць на падмосткі герояў аповесці Э. Ажэшкі "Хам". І Франка, ролю якой іграе С. Акружная, зноў жа з тых жаночых душ, якія недзе "пабылі"... не тут, дзе ім наканавана жыць... не ў звыклым асяроддзі... не сярод равеснікаў і тутэйшых... Яна і на сцэну ўлятае гэткім каляровым матылём-вандроўнікам. Зграбная, рухавая, звонкагалосая Франка ўжо сутыкнулася "з іншым" жыццём, зведала нешта такое, чаго тут няма. Яна пакаштавала іншага жыцця, яна папесцілася ў панскім доме. Яе вабіць вонкава бесклапотнае жыццё, жыццё па-панску. Гэтыя музычныя вечары. Прыгожа прыбраныя пакоі. Прыцішаныя ветлівыя звароты адзін да аднаго. Кнігі ў скураных вокладках... Пабыўшы там, адчуўшы душой і целам, што такое "панская каханка", яна — прыродай не сапсаваная, нават цнатлівая па прыродзе, — разгубілася ў хаце вясковага пустэльніка, мужыка, які не ведае кніг... музыкі... гаворыць па-хамску...

Каханне? Але, ён кахае яе, дык жа "не так" — не па-кніжнаму, не гжэчна. І актрыса па-мастацку жыва раскрывае трагедыю маладой жанчыны, якая адчувае хараство навакольнага поплаву з мяккім, пахкім мурогам і нават можа ацаніць душэўнае высакародства свайго падманутага ёю мужа ды падсвядома цягнецца туды — да маёнтка, дзе вечарамі гучыць скрыпка і фартэпіяна, а па бліскучым паркеце фатаватыя кавалеры кружаць сваіх дам... Па загаду сэрца Франка... грашыць. Абражае і зневажае закаханага ў яе Паўла. Дзічыцца вясковых людзей. Няма ёй, зацкаванай імі, прытулку на зямлі — "туды" не запрашаюць і не пускаюць, "тутака" ёй сумна і агідна марнець душой і целам сярод тых, каму яна, начапіўшы на валасы кветку, крычыць:

— Я пакажу вам, хамы, хто я такая! Я навучу вас шанаваць тых, хто вышэй за вас. Я — панскага роду! Бацька мой у канцылярыі служыў... Маці на фартэпіянах іграла...

Калі б яе ўбачыў у гэты момант спрактыкаваны псіхааналітык і заўважыў застылую ў вачах Франкі неадольна спустошаную самоту, ён, мабыць, зразумеў бы, што сама душа гэтай жанчыны, быццам матыль з пабітай красой сваіх крылаў, зноў б'ецца на вузенькай грані, якая аддзяляе рэштку душэўнага здароўя ад душэўнай хваробы. Гэта актрыса ўвасабляе трагедыйна. Праўдзіва. Кідка. І неяк па-жаноцку спавядальна.

Ах, гэтыя злашчасныя закулісныя інтрыгі! Яны вымушалі С. Акружную абрываць тую споведзь, яе сцэнічны рэпертуар бяднеў, ёй не давалі цікавых роляў. І тады яна спавядалася маўкліва або перад надзейнымі сябрамі ў сваёй матчынай радасці. Яе Дзімачка сваёй абаяльнасцю і жыццярадасным характарам у пэўнай меры спрыяў таму, што яна не так балюча перажывала гаркоту і крыўды ад не надта ўдалага шлюбу...

Непазнавальна ажыўленай робіцца актрыса, калі чытае на дошцы загадаў размеркаванне роляў у новым спектаклі і сярод першых у спісе бачыць сваё імя. Але



прафесія робіцца лёсам, і акцёр літаральна ажывае, прадчуваючы асалоду ад псіхалагічна складаных і фізічна напружаных творчых пошукаў. І зноў на сцэне пачынае трымцець артыстычна асэнсаваная споведзь жаночана сэрца. Гледачы зноў вітаюць теленаeітую С. Акружную. Асабліва, калі на тое багатая літаратурная першакрыніца спектакля. Таму ў яе рэпертуары творы Талстога, Дастаеўскага, Чапека, Ляонава па-свойму перагукаюцца з добра зробленымі п'есамі Макаёнка, Вампілава, Паповай, Шабана або Слэйда і Шэно. Якія кантрасты! У характарах. У тэмпераментах. У нораве. У светаадчуванні. Ад велічы да тужлівай прыніжанасці. Ад сумленнай самаахвярнасці да вымушаных крокаў у лабірынце пачуццяў і разлікаў.

...Калі мы ўтраіх разгаманіліся тады ў майстэрні Заіра Азгура, яна ані слова пра свайго Дзімачку не прамовіла. Больш пра Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласв, у трупе якога бавіць усё жыццё пасля заканчэння Тэатральнага інстытута ў Мінску, пра ролі, што мрояцца ў летуценных марах. Калі мы развіталіся з ёю, маэстра Азгур задуменна прамовіў: "Актры-са-а..." А на другі дзень сказаў, што гэтая актрыса... Як яе? Святлана Арцёмаўна... Яна была б цудоўнай натурай для вобраза мадонны. Не скульптурнага, жывапіснага. Бо ў яе такі жывы бляск у вачах. "Вачамі яна мне сказала пра сябе больш, чымся словамі", — прызнаўся маэстра Азгур.

Але яна пацвярджае ўсім жыццём справядлівасць назіральнай высновы такога празорліўца, якім мы ведалі скульптара Заіра Азгура. Пацвярджае як жанчына. Як маці. Як актрыса акрэсленай грамадзянскай існасці. Яе напаткала страшэннае выпрабаванне. Сын Дзіма ў выніку трагічнага выпадку ў вайсковай казарме цяпер прыкуты да інваліднай каляскі. І толькі неймаверныя намаганні і самаахвярная воля маці забяспечваюць яму прыстойнае жыццё, часта насуперак, мякка кажучы, скепсісу і сумневу медыкаў. Ужо не мастакомактрысай зазірнула яна... пабыла яна ў зусім іншым, "не такім", у пакутлівым і халодным свеце. На мяжы. На грані, і калі я кажу пра яе чалавечае хараство, як пра пячатку Бога на ейным дабрадзейным характары, то маю на ўвазе і гэтую... неардынарную... у пакутах і слязах выкрышталізаваную прыгажосць.

Вядома, што заўсёды лічыцца добрым той учынак, пра які мы заднім чыслом гаворым: "Я не мог зрабіць інакшым чынам". І хоць на долю Святланы Акружной выпадаюць цяжкія беды, яна не гоніць смутную і чамусьці вінаватую ўсмешку, калі прызнаецца, што выпрабаванні лёсу, магчыма, і абудзілі ў ёй сілу, каб пераадолець гора і ўсё ж не пакінуць сцэну, пасля пакутлівага роздуму выйсці ў святло рампы.

— На тое воля Усявышняга, — шэптам праз слёзы прамовіла яна.

Хто ж падкажа, з чаго ствараюцца артыстам сцэнічныя вобразы? Я шукаю адказу ў філасофскай літаратуры. Ну вось хоць такога: "Шчаслівыя істоты няшмат чаго ведаюць пра жыццё. Гора — вялікі вучыцель людзей. Яно навучыла іх мастацтвам, паэзіі і маралі. Яно напаўняе чалавечыя душы гераізмам разам са спагадаю. Яно ўзвышае каштоўнасць жыцця, якое аддаецца ў ахвяру вышэйшай вартасці. Гэта яно, боскае і дабрачыннае гора, надае любові невычэрпныя сілы", — сцвярджае вялікі і горкі іраніст Анатоль Франс. Супярэчліва разлютаванае і зваблівa цудоўнае жыццё, якім адорвае нас Усявышні аднакроць, жыццё, падобнае маленькаму язычку полымя паміж дзвюма бясконцымі хмарамі змроку, — гэтае жыццё разам з намі спасцігае актрыса Святлана Акружная, паглыбляючыся ў вобраз жанчыны — ці то звычайнай пакаёўкі ў панскім маёнтку, ці то адухоўленай Жанны д'Арк...

Апошняя сёлетняя прэм'ера Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа — драма Жана Ануя "Жаваронак". У ролі Арлеанскай нявінніцы — актрыса С. Акружная. Коласаўцы паказалі гэты спектакль на гастролях у Мінску.

Барыс БУР'ЯН.

---

Генадзь АЎЛАСЕНКА

## З МІНУЛАГА...

Чужыя гігікаюць коні...
Шалёныя бубны гудуць...
У чорным татарскім палоне
Людзей у няволю вядуць!

Нявольнік...
Нявольнік...
Няволя...
Не выпрастаць
скручаных рук!
А зверху,
знаёмы да болю,
Звініць
развітальна
жаўрук!
А збоку
бярозы,
бярозы...
Жытнёвыя
хвалі
ў палях...
І коцяцца
горкія слёзы
На пыльны
пакутніцкі шлях!
Ім больш не вярнуцца
дадому!
(Яшчэ б
хоць разочак
зірнуць!)
Што будзе далей —
невядома...
А ўсё, што раней, —
не вярнуць...
І коцяцца горкія слёзы...
На босыя ногі ляцяць...
А збоку
бярозы,
бярозы,
На іх
развітальна глядзяць...
А зверху,
знаёмы да болю,
Жаўрук
развітальна пяе...

За што
гэта горкая доля!!
Нявольнік...
Нявольнік...
Няволя...

Далёкія продкі мае...

---

## ШКОЛА МАСТАЦТВАЎ У КАЛГАСЕ



У калгасе "Язёрскі" Чэрыкаўскага раёна працуюць філіял раённай школы мастацтваў і дзіцячы сад з чатырма дзесяткамі дзяцей. Ніякія эканамічныя цяжкасці, лічаць тут, не павінны перашкаджаць выхаванню маладога пакалення. Таму і спакойныя хлебаробы на веснавым полі: іх дзеці не толькі дагледжаныя, але і вучацца цікавай і карыснай справе.

НА ЗДЫМКУ: выкладчыца па класу фартэпіяна Анжэла ПАДАБЕД з вучаніцай Юляй ІДАЛЕНКА.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

*ЮРКА — СЯРЭДНІ СЫН ЯКУБА КОЛАСА*

# МУЖНЫ І ТАВАРЫСКІ

Трывожнай старонкай у біяграфію Якуба Коласа ўвайшоў лёс яго сярэдняга сына Юркі. Загінуў юнак на фронце ў першы год вайны. Акурат гэтымі днямі яму споўнілася б 80. З нагоды юбілею ў музеі народнага песняра адбыўся чарговы літаратурны чацвер. Адкрыў і вёў сустрэчу старшы навуковы супрацоўнік Коласавага дому Іван Курбека.

Напачатку слухачам ён прапанаваў магнітафонны запіс голасу старэйшага Юркавага брата. Яго, шаноўнага Данілы Канстанцінавіча, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, першага шматгадовага дырэктара музея, летась не стала. З затоеным дыханнем усе ўслухоўваліся ў кожнае слова "прамоўцы". Ён, у прыватнасці, сказаў":

"Мой брат Юрка быў маладзейшы за мяне больш як на два з паловай гады. Самыя першыя ўспаміны пра яго прыходзяцца яшчэ на цяжкі і галодны час знаходжання на Куршчыне. Ён тады быў зусім маленькім хлопчыкам. Пасля прыезду ў Мінск, у 1921 годзе, мы ўвесь час жылі разам. Разам знаходзіліся і ў месцах адпачынку. Юрка любіў хадзіць з бацькам у грыбы, на рэчку, быў няўрымслівым і нястомным паляўнічым, трапным стралком. Часта прымаў удзел у спаборніцтвах па стэндавай стральбе (стральба шротам па талерках, што вылятаюць з вялікай хуткасцю)...

Пасля сканчэння ў 1940 годзе БДУ быў прызваны ў Чырвоную Армію. Службу праходзіў у конным артылерыйскім палку ў невялікім мястэчу Ставіскі (за Ломжай, на Беласточчыне) на самай мяжы з акупіраванай Польшчай.

15 чэрвеня 1941 года (за тыдзень да пачатку Вялікай Айчыннай вайны) у Мінску пачыналіся рэспубліканскія спаборніцтвы па стэндавай стральбе. У спаборніцтвах прымае ўдзел сярод іншых і каманда Заходняй асобай ваеннай акругі. У склад гэтай каманды ўваходзіць і яфрэйтар Ю. Міцкевіч, які быў выкліканы начальствам з воінскай часці. Тут яго і застала вайна...

Як вядома, 30 верасня 1941 года пачалося наступленне фашысцкіх войск на Маскву. Многа нашых дывізій загінула ў геройчнай барацьбе ў акружэнні пад Вязьмай. З таго часу мы не атрымлівалі ніякіх звестак пра Юрку. Пісьмы да яго вярталіся з прыпіскай: "Адрасат выбыў з часці..."



Прачула гаварыла пра Юрку прафесар БДУ Вольга Якушка. З сынам Коласа яна вучылася на адным, геаграфічным, факультэце, толькі на розных курсах. Людскі быў ён чалавек, таварыш.

Добрым, ціхім словам успомнілі юбіляра былыя, даваенныя суседзі Коласавай сям'і Валянціна Сачок і Галіна Уладзіміраўна. З Юркам прыемна пачувалася ў любой кампаніі. Умеў ён сябраваць, гуртаваць моладзь, заступіцца за пакрыўджанага (вызначаўся смеласцю і фізічнай сілаю). Кастусь Самахвал памятае Коласавага сына яшчэ з часу, калі сям'я народнага паэта жыла на кватэры ў Вільгельма Русецкага. Гэта 1921—1927 гады. Хлопец быў ён увішны, баявы, але справядлівы.

На вечарыне прагучалі і лісты Юркі з фронту. Іх прачытаў народны артыст Беларусі Павел Дубашынскі. А вядомы паэт, лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Аркадзя Куляшова, падпалкоўнік у адстаўцы Пятро Прыходзька запрапанаваў прысутным верш, прысвечаны юбіляру, напісаны спецыяльна да гэтай падзеі.

З асаблівай увагай слухалі насельнікі Коласавай гасцёўні выступленне малодшага Юркавага брата Міхася. Шмат цікавых эпізодаў прыгадаў ён. Юрка валодаў незвычайным дарам выдумшчыка. Мог расказваць неверагодныя гісторыі як рэальныя падзеі. І гэтым паланіў меншых сваіх таварышаў. Ну проста ашаламіў прысутных Міхась Канстанцінавіч, калі асцярожна выняў з футарала стрэльбу і абвясціў, што яна Юркава. Адыходзячы ў армію, пакінуў ён ружжо на захаванне малодшаму брату. А яму самому ў 1935 годзе прывёз бацька, Якуб Колас, з Масквы, з VII Усесаюзнага з'езда Саветаў, удзельнікам якога быў. Музей папоўніўся рэліквіяй — паляўнічай стрэльбай-дубальтоўкай 16 калібру, што належала сыну песняра.

Вядучы вечарыны зачытаў урыўкі з успамінаў людзей, якія блізка ведалі Юрку. Вось што пісала яго былая аднакурсніца Марына Казлова:

"Паступілі мы ўсе ў 35-м годзе ва універсітэт і скончылі першы курс паспяхова. З другога курса бліжэй пазналі адзін аднаго. Былі вельмі дружныя між сабой. Гэтае пабрацімства перайшло як бы ў радство. Калі б цяпер дружылі так, як тады!.. Новы, 1937 год, вырашылі сустрэць разам. Але ж дзе знайсці месца? І вось Юрка запрапанаваў свой дом. І мы, увесь курс, 60 чалавек, апынуліся ў Коласавым доме, што стаяў у парку імя Горкага. На другім паверсе — зала. Як жа ўвайсці, як сябе паводзіць, што гаварыць? Як сядзець за сталом? Гэта ж дом вялікага пісьменніка, якога ведалі са школы па яго творах!

Прыйшлі і запрапанавалі свае паслугі зрабіць што на кухні. Нам сказалі: "Нічога не трэба. Вы — госці". Селі за стол. Нарыхтавана ўсяго было як для самых доўгачаканых гасцей. Кожнаму — талерка, прыбор, чарка. А якія напіткі! Мы тады жылі толькі на стыпендыю, і для нас гэты пачастунак быў "царскі".

З успамінаў Івана Салаўя:

"Нягледзячы на прыналежнасць да высокай пісьменніцкай сям'і, Юрка не выдзяляўся і не жадаў гэта рабіць. Заўсёды паводзіў сябе вельмі сціпла.

Знаходзіліся мы на Каўказе, у горадзе Грозным. А там жывуць інгушы і чачэнцы, народ гарачы. Зайшлі мы ў сталоўую. Палі. Наша студэнцкае меню было даволі сціплае. Выйшлі. Бачым: два мясцовыя жыхары (не ведаю, якой нацыянальнасці) пачалі спрачацца. А ў кожнага — кінжал. Адзін выхапіў — і да другога! Юрка падскочыў і — хоп за лязо нажа! Тыя разгубіліся. Яны — да Юркі. "Папажы кінжал, і паглядзім, хто ў чым вінаваты", — дабрадушна, але ўладна запрапанаваў ён. Забіякі адразу ж пamiрыліся. Узялі Юрку, яшчэ некалькі хлопцаў і пайшлі — замачылі мірную здзелку.

Ніколі Юрка не ставіў сябе вышэй за іншых. Быў сціплым сябрам, таварыскім. Калі паклікала Радзіма, праявіў сябе верным яе сынам. І аддаў жыццё за свабоду і незалежнасць роднай зямлі".

**Сцяпан ІВАНЧЫК.**

**НА ЗДЫМКУ: Міхась МІЦКЕВІЧ перадае Юркаву стрэльбу дырэктару музея Зінаідзе КАМАРОЎСКАЙ.**

**Фота У. ГУЗОЎСКАГА.**

# АДКРЫЦЦЁ ПАЭТА

Імя Рыгора Папараця амаль што невядомае ў гісторыі беларускай літаратуры. У дакладным, фактаграфічным бібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" паэт нават на згадваецца. А між тым у перадваенныя гады Рыгор Папараць даволі актыўна друкаваўся ў газетах "Савецкая Беларусь", "Беларуская вёска", "Чырвоная змена", у часопісах "Малады араты", "Маладняк", "Узвышша", "Полымя рэвалюцыі", "Беларусь калгасная". Малады паэт быў членам літаратурнай арганізацыі "Маладняк", а пасля — і членам Беларускай арганізацыі пралетарскіх пісьменнікаў. Асобнай кніжкай свае творы Рыгор Папараць так і не выдаў.

Гэтыя і іншыя акалічнасці біяграфіі Рыгора Папараця сталі вядомы з сціплай кніжачкі вершаў "Даруйце мне", якая ўбачыла свет у Мар'інай Горцы. Сродкі на выданне зборніка выдзеліў Пухавіцкі райвыканком. Укладальнік выдання і аўтар прадмовы — дырэктар раённага краязнаўчага музея Аляксандр Пранoвіч.

Сярод іншых твораў кнігі ўражвае, кранае сэрца асабліва вось гэты верш — "Даруйце мне":

**Даруйце мне...**
**Выгнанніку даруйце,**
**Мае пахілыя бярозы і стагі.**
**Па мне ў самоце, сцежкі,**
**не сумуйце.**
**Мяне паклікалі чужыя берагі.**

І апошняя страфа:

**Даруйце мне...**
**Выгнанніку даруйце!..**
**Я падаю сапраўднасцю ля ног.**
**Я вас прашу:**
**Мяне вясной закуйце**
**У блакіт — бярозавы перапалох!**

Напісаны гэтыя радкі ў Ленінградзе ў 1927 годзе. Як жа туды патрапіў Рыгор Папараць (сапраўднае прозвішча паэта — Сапун, нарадзіўся ж ён у вёсцы Шэлягі Узлянскага сельскага савета Пухавіцкага рана)? У 1921 годзе стаў слухачом рабфака пры Белдзяржуніверсітэце. Пасля паступіў на медыцынскі факультэт універсітэта. Але з часам любоў да слова перамагла. Рыгор Сапун паехаў вучыцца ў Ленінградскі універсітэт. І тут здарылася бяда. Самагубствам скончыў жыццё прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Усевалад Ігнатоўскі. Пад уражаннем страты малады паэт напісаў верш, даў прачытаць і перапісаць сябрам. Праз некаторы час Рыгора выключылі з універсітэта за "крамольные стишки, порочащие партию и советское правительство". А ўвясну 1937 года паэта арыштавалі. Прабыў у турме 6 месяцаў. Выпусцілі з фармуліроўкай: "Выслаць з Ленінграда і забараніць займацца літаратурнай дзейнасцю". Вярнуўся на радзіму. У час Вялікай Айчыннай партызаніў, быў на фронце. У красавіку 1948 года паэта не стала. Такая вось лаканічная біяграфія ў апантанага, улюбёнага ў літаратуру чалавека.

Архіў паэта, перададзены жонкай Любоўю Кузьмінічнай Арловай, зберагаецца ў Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі. А што датычыць згаданай кніжачкі, то выдадзена яна ў серыі "Паэты Пухаўшчыны".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**





**Стаіць у Міёрах, ля самага касцёла, унікальны помнік. Гэта помнік ненароджанаму дзіцяці. Як вядома, хрысціянская вера выступае супраць штучнага спынення цяжарнасці, лічачы гэта вялікім грахом. І ксёндз міёрскага касцёла Уладзіслаў Пятрайціс часта выступае з пропаведзямі на гэтую тэму. Ён лічыць, што для Беларусі, дзе намецілася перавышэнне смяротнасці над нараджальнасцю, гэтая праблема блізкая да чарнобыльскай. Так узнікла ідэя стварэння помніка, ажыццявіць якую дапамог мастак Алесь Дранец.**

**...У паглыбленні плахі гільяціны ляжыць палова яблыка (яблык — сімвал граху), а ў ім — зародак дзіцяці. Над ім, гатовы ўпасці, нож гільяціны. Але паміж яблыкам і нажом — вобраз Маці Божай, якая прыкрывае сабой жыццё, якое толькі нараджаецца.**

**НА ЗДЫМКАХ: ксёндз Уладзіслаў ПЯТРАЙЦІС; помнік ненароджанаму дзіцяці ў Міёрах.**

**Тэкст і фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

ПРЭМ'ЕРА



Трупа Брэсцкага тэатра драмы і музыкі паказала нядаўна прэм'еру спектакля па п'есе маладога драматурга Наталлі Марчук "Качка Гапа". Зробленая ў стылі беларускіх народных казак, п'еса прапаведуе дабрыню, дружбу. У спектаклі заняты як вопытныя акцёры, так і моладзь.
НА ЗДЫМКУ: сцэна з новага дзіцячага спектакля.

Фота Рамана КАБЯКА.

# ВЕРШЫ СТАЛІ ПЕСНЯМІ

Цяжка падлічыць, колькі вершаў нашага земляка Уладзіміра Мазго пакладзена беларускімі кампазітарамі на музыку. Гэта самае пераканаўчае прызнанне творчасці паэта.

Прадстаўляючы творчасць У. Мазго на вечары сустрэчы з землякамі, вучні Зэльвенскай СШ № 2 прачыталі нізку яго вершаў, успамінвы пра Ларысу Геніюш і вершы, прысвечаныя яго роднай вёсцы Бярэжкі.

Уладзімір Мінавіч прызнаўся, што быў узрушаны такой шчырасцю землякоў. Ён расказаў аб дзяржаўным выдавецтве "Юнацтва", у якім працуе 12 гадоў. За гэты час толькі ён адрэдагаваў 98 кніг для моладзі і юнацтва. Адказваючы на пытанні, ён падзяліўся ўражаннямі ад сустрэч з Піменам Панчанкам і іншымі пісьменнікамі, прыгадаў сваіх зэльвенскіх настаўнікаў, гады юнацтва, калі нязменнай папулярнасцю карыстаўся не толькі на Зэльвеншчыне ансамбль "Русічы" мясцовага Дома культуры.

Для У. Мазго быў падрыхтаваны сюрпрыз — прэм'ера песні "Вяртанне" на яго верш, музыку якой напісаў выкладчык мясцовай музычнай школы Аляксандр Сямёнчык, а былая салістка ансамбля "Русічы" Станіслава Прызван выканала яе ўпершыню.

У. Мазго ў сваю чаргу прачытаў нізку вершаў, якія прасякнуты любоўю да радзімы. Пяць кніг паэзіі — гэта вынік творчага пошуку, душэўных парыванняў, натхнення.

Падчас сустрэчы ён перадаў бібліятэкам раёна кнігі з аўтографамі аўтараў — Міхася Пазнякова, Міхася Зарэмбы, Сяргея Панізніка, Івана Шамякіна і іншых.

Варта прыгадаць, што сустрэча праходзіла якраз у той дзень, калі дваццаць пяць гадоў назад быў надрукаваны яго першы верш у зэльвенскай райгазеце "Праца".

Успамінамі падзяліўся і кіраўнік літаб'яднання "Зоры над Зэльвянкай" пры райгазеце П. Марціноўскі, які зазначыў, што "...калі б сабраць кніжкі нашых землякоў, была б неблагая бібліятэчка". І па праву ганаровае месца тут занялі б творы Ларысы Геніюш, Юркі Голуба, Уладзіміра Мазго, Уладзіміра Ягоўдзіка, Міхася Скоблы, Івана Сяргейчыка, Валянціны Ададуравай і многіх іншых.

Сёння паэт Уладзімір Мазго творча супрацоўнічае з кампазітарам Алегам Казловічам з ансамбля "Песняры", Алегам Елісеенкавым, Уладзімірам Сарокіным і іншымі.

Пётр ЖЭБРАК.

ПРЫРОДА

# ХВОЯ

За вёскаю на ўзгорку ў жыце стаяла старая, тоўстая хвоя. Тонкаю яе ніхто не памятаў. Камель у хвоі быў парэпаны, шурпаты. І абшмулены, выкаўзаны ўнізе — аб яго і каровы чухаліся, і цярліся коні. А вышэй камля пачынаўся жоўты, гладкі, быццам адпаліраваны ствол, па якім цыбулёвым шалупіннем віселі шматкі маладой кары. Галлё ў хвоі было густое, разложыстае. Скрозь яго і неба не было відаць. Калі з поля дзьмуў вецер — дрэва глуха крактала, скардзілася на сваю старасць і, быццам хворую спіну, згінала ствол ды тоненька папіскваля ўгары шалупіннем.

Далёка было відаць дрэва. Аэр на полі трактарыст — цягне бароны да хвоі, ляціць птушка над полем — да дрэва заверне. А для падарожніка яна зрабілася мерай адлегласці. Адны казалі: "Дойдзем да хвоі, а там ужо і вёска блізка". Або ідзе дамоў стомлены чалавек, убачыць дрэва і з палёгкаю ўздыхне: "А вось ужо і хвоя відаць". Дарога ішла якраз цераз узгорак, і людзі часта заварочвалі да хвоі, каб пад ёю адпачыць. Да дрэва прыходзілі і проста так, каб пасядзець, паглядзець на збажыну. Усе ў наваколлі, ад малога да старога, ведалі старую хвою. Дрэва заўсёды было ў людзей на вачах. Таму, мабыць, і не заўважалі яго. Хвоя стала нечым звыклым, неадлучным ад поля і вёскі, ад усяго, што акружала тутэйшых людзей і здавалася для ўсіх вечнаю з'яваю, як неба і сонца.

Аднойчы я пайшоў у поле і адразу адчуў, што нечага не хапае. І вёска быццам бы на месцы, і дарога, і жаўрукі віселі над полем, але нешта змянілася. Зірнуў на ўзгорак — хвоі няма. Нехта яе спілаваў. Я вярнуўся ў вёску і сказаў пра гэта людзям. Яны высыпалі са сваіх двароў, пабеглі на ўзгорак, доўга там стаялі каля паваленага дрэва, бедавалі і на чым свет стаіць лаялі, клялі паганага чалавека, які гэта зрабіў. І вось што цікава: усе спахапіліся толькі тады, калі хвоі не стала. Моцна, відаць, да яе прывыклі. Адныялі, адабралі ад людзей нешта звычайнае, даўняе і патрэбнае. Так, відаць, прывыкаючы да заўсёднага перастуку ходзікаў у хаце і нечакана здзіўляюцца, калі яны спыняюцца.

Пішу я гэта і думаю пра нашае людское жыццё. Жыве чалавек, робіць сваю штодзённую справу і за ёю неяк сам застаецца назаўважаным, нібы губляецца. Прыйдзе час — памрэ чалавек, і вось калі яго ўжо няма, усе спахопяцца, пачнуць гаравацць, хваліць яго ўсе разам, але, на жаль, — пасля смерці.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

# ПАМЯЦІ ПЯТРА БАШКО



Ля парэчанскага вакзала можна заўважыць чыгуначныя шпалы з датай на іх — 1915 год.

Вось менавіта ў гэтым неспакойным годзе ў жніўні месяцы ў гэтым мястэчку ўпершыню ўбачыў свет шаноўны і незабыўны наш Пётр Башко. Гадавіна з дня заканчэння зямнога шляху гэтага ўсебакова таленавітага і цікавага чалавека прыпала на веснавы перадпасхальны суботні дзень 19 красавіка.

Канешне ж, не дзіва, што металічная рэйка даўгавечней за чалавечае жыццё, і ў той жа час яны неяк метафарычна атаясамліваюцца. Як пачалося жыццё гэтага чалавека з пакутаванняў ваеннага ліхалецця першай сусветнай вайны, так і скончылася няпэўнасцю абставін долі Бацькаўшчыны.

Страціўшы большую частку з некалі вялікай сям'і, Пятро Сцяпанавіч з годнасцю прайшоў віхуры ўсіх войнаў іпературбацый пасляваеннага часу. Многае пабачыўшы на сваім вяку, на жаль, пісьмовых успамінаў не пакінуў.

Добра сябраваў з Антонам Валынчыкам, Іванам Вінаградам, Раманам Лецкам, Антонам Рагойшам, Адамам Емельяновічам, Аляксеем Пяткевічам, Пятром Скрабцом, Уладзімірам Казаком, Уладзіславай Купалхай, Анастасіяй і Ігнатам Сланеўскімі, Ларысай Геніюш і іншымі.

У школьныя гады вучыўся з цяперашнім прэзідэнтам БНР Язэпам Сажычам.

Паважаны ўсімі Пётр Сцяпанавіч з маленства старанна здабываў веды і многа працаваў. Пасля сканчэння Вышэйшай чыгуначнай школы ў Варшаве працаваў на авіяцыйным заводзе ў аддзеле рухавікоў, прайшоўшы шлях ад чарцёжніка да старшага тэхнічнага рэферэнта. Адначасова вучыўся ў Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва па класу прафесара Аляксандра Зэльвяровіча. Але другая сусветная вайна не дазволіла скончыць гэтую ўстанову.

Асноўныя гады жыцця аддадзены былі педагагічнай працы. Ён быў выкладчыкам Гродзенскага педінстытута, дэканам і заўсёды вельмі любіў свой калектыў, карыстаўся ў ім аўтарытэтам і павагай.

Як было сказана на жалобнай паніхідзе, актыўна ўдзельнічаў ва ўсіх справах па адраджэнню Бацькаўшчыны, быў шчыра адданы гэтай справе.

Усе, хто ведаў Пятра Сцяпанавіча, заўсёды з павагай ставіліся да ягонае асобы і вельмі ж па-чалавечаму — цёпла, годна і з пашанай — праводзілі яго ў апошні шлях.

У развітальныя хвіліны на магіле праспявалі два хоры: саборны і хор Бацькаўшчыны. Добрыя людзі аддаліцй яму за неабсяжную ягоную любоў да іх усіх і да Беларусі.

Сяржук ВОЙНА.
г. Гродна.



Прайшла бура.

Фота Віктара СТАВЕРА.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 787. Падпісана да друку 2.6.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.